№ 1 Вільня, 8 чэрвеня 1920 г. Год 1

# НЕЗАЛЕЖНАЯ ДУМКА

Палітычна-грамадзянская і літэратурная часопісь

Выходзіць што тыдзень.

Рэдакцыя і Адміністрацыя: Вострабрамская 9—5, адчынена штодзень ад 11 да 1 г. апрача сьвят.

Асобны нумэр 2 маркі, на 1 год 100 мк., на 6 месяцоў 50 мк., на 3 мес. 25 мк, на 1 м. 8 м.



## Ад рэдакцыі.

Надзвычайна цяжкія, як матэрыяльныя, так і „іншыя“ варункі сучаснаго жыцьця робяць амаль немагчымым выдаваньне газэт, дaступных па цане і патрэбных для шырокай публічнасьці. Дзякуючы усяму гэтаму, ў Вільні, апрача „Крыніцы“, выходзячай не часьцей, як раз ў два тыдні, і маючай сваё асабліваe назначэньне, няма ні воднай беларускай газэты. Каб хоць троху здаволіць патрэбу беларускага Грамадзянства Віленшчыны чытаць родную газэту, група беларусоў узяла на сябе працу выданьня ў Вільні тыднёвіка пад назвай «Незалежная Думка». „Незалежная Думка“ ставіць сваёй мэтай: быць на варце непадзельнасьці і незалежнасьці Беларусі; абслужываць інтарэсы многамільённаго беларускаго селянства, глаўным чынам—вырашаць аграрнае пытаньне згодна з выявіўшайся воляй беларускаго селянства, т. е. бараніць прыватную зямельную уласнасьць працоўнаго тыпу, каторая адна толькі зможа умацаваць нашае селянство і матэрыяльно і культурно і навэт нацыанально. Газэта мея надзею на шчырае супрацоўніцтво па гэтаму пытаньню самаго селянства і інтэлігэнцыі беларускай, вышаўшай з народу; змагацца за беларускую школу, пабудованую на асновах роднай мовы і культуры; выясьняць патрэбу згоды паміж нацыанальнасьцямі, якія жывуць ў нашым крае, згоды на асновах адказу ад уціску і прымусу дужэйшаго над слабейшымі; змагацца за роўнасьць і вольнасьць усіх народаў ў межах іх разсяленьня і г. д.

Ставячы сабе такія мэты, рэдакцыя „Незалежнай Думкі“ мея надзею пры лепшых варунках павялічыць фармат газэты і нават зрабіць яе штодзеннай.

## Беларускае селянство і зямельнае пытаньне.

### I.

Зямельнае пытаньне на Белай Русі з'яўляецца адным з важнейшых і тое чы іншае вырашэньне яго ў сучасны момэнт надасьць краю нашаму той ці іншы характар гаспадарскаго жыцьця на доўгіе годы. Дзеля гэтаго да зямельнаго пытаньня трэба падходзіць вельмі сур'ёзна і, разумеецца, вырашыць яго так, як хоча большасьць жыхароў нашаго краю, значыць, як хоча наша беларускае селянство.

Розныя партыі стараюцца вырашыць зямельнае пытаньне па сваёму. Адны прызнаюць зямельную ўласнасьць, другіе яе адкідаюць і лічуць, што усякае дабро ёсьць не прыватная, а гасударственая ўласнасьць і чалавек можа з гэтаго дабра толькі карыстацца, але не валадаць ім вечна—ад бацькі да сына, ўнука і далей. Так думае комуністычная партыя і некаторыя соціалістычныя (крайнія левыя). Несоціалістычныя-ж партыі а так само і умяркаваныя соцыялістычныя прызнаюць зямельную ўласнасьць, але розніца паміж імі ёсьць у тым, што адны з іх хочуць пакінуць памешчыкам усю іх зямлю, ці большасьць яе, а селянам даць толькі трохі, а мо і зусім не даць, а другіе хочуць адабраць у памешчыкаў

зямлю, пакінуўшы ім частку, чы нічога не пакінуўшы, а селянам, асабліва беззямельным і малазямельным, даць большменш значныя прырэзкі зямлі у прыватную іх ўласнасьць. Так вырашаюць зямельнае пытаньне розныя партыі нашаго краю. Як усім нам добра ведама, пры царскім рэжыме адкрыта маглі працаваць далёка ня ўсе партыі; тыя з іх, каторыя рэзко крытыкавалі царскіе парадкі і ўступаліся за прыгнембеных, альбо крычалі аб уціску беларусоў, украінцаў, літоўцаў і іншых нацыанальнасьцяў, павінны былі хавацца ў падпольле, працаваць таемна і праца іх не магла з гэтай прычыны як сьледуе пашырацца сярод народу. Прывілегіі над усімі мелі расейскія партыі, прынесшыя з сабой і тое чы іншае вырашэньне зямельнаго пытаньня на расейскі абразец. Расейскія партыі не лічыліся з месцовым укладам жыцьця. І здавалася, што, напрыклад Віленшчына тое самае, што Саратаўская губэрнія, што Каўказ мала чым рожніцца ад Польшчы. Адным словам, за малым выключэньнем, партыі, істнаваўшыя на Беларусі пры царскім рэжыме, былі ўсерасійскія, вырашаўшыя і зямельнае пытаньне ва ўсерасійскім чы навэт у міжнародным маштабе.

Аб польскіх партыях, каторыя пачалі сваю працу ў нашым краі досыць даўно, прыходзіцца сказаць, што яны працавалі толькі паміж тутэйшымі палякамі і беларусамі-каталікамі. Значных уплываў на беларускае селянство яны ня мелі да гэтаго часу. Магчыма, што польскія партыі пастараюцца яшчэ разьвіць сваю працу ў напрамку вырашэньня зямельнаго пытаньня на Беларусі. Але гэтаго трэба яшчэ чакаць, а ў цяперашні час польскія партыі і амаль усе польскае грамадзянство працуе на Беларусі у напрамку чыста палітычна-нацыаналістычным і культуральным польскім. Сярод беларускіх соцыялістычных і несоцыялістычных партыяў, вырашаючых так чы іначэй зямельнае пытаньне найбольшым уплывам сярод селянства карыстаецца партыя беларускіх соцыялістоў-рэволюцыянэраў. Другая соцыялістычная беларуская партыя — партыя беларускіх соцыяль-дэмократоў да апошняй пары не вышла яшчэ за абшары беларускай трудавой інтэлігенцыі і незначнай лічбы работнікоў-беларусоў. Народныя беларускія соцыялісты а таксама несоцыялістычныя беларускія партыі яшчэ не пашырылі зусім сваёй працы сярод народу. Наогул трэба сказаць, што нацыянальныя беларускія партыі, дзякуючы розным вельмі шкодным варункам для іх працы, не маглі яшчэ да апошняго часу пусьціць моцные корні ў народ. Гэто ня добра. Аднак, ня трэба думаць, што народ, без кіраўніцтва партыяў, не разбіраецца ў палітыцэ. Ен добра ведае, што яму патрэбна, асабліва па такому пытаньню як зямельнае, і калі ў яго пытаюцца, ён выказвае сваю волю па зямельнаму пытаньню зусім ясна і катэгорычна.

Успомнім хоць бы зьезд, адбыўшыся

---

# Асілак.

(Легенда з часоў паншчыны).

I.

Агарнула ночка калядная цьмою крамешнаю ды муцьцю сьнежнаю зямельку ціхую, ў беззатольнай нудзе ад сьцюжы застыглую. У безьбярэжным полі сьнегавым мятусяцца хохлікі, круцяцца. Званчэй звоняць палазы ад марозу лютага. Пякучым ветрам аж зацінае дыханьне. Едзе Васіль з канторы панскае. Вазіў тудой бабскія зрушнікі кужэльнага прадзева. Пад'язджае к хатам сваім. Блізка ўжо: сярод шэрае дзяругі сьвятло ў ваконцы бліснула. Аж раптам зачапілі вочы у сумёце касым, што вышэй за пляцнеў намяло, зачапілі нешта цёмнае: постаць чорная з кастылём і з хатомкаю.—„Добры вечар!“—гукнуў Васіль.— Добрае здароўе чалавеку добраму“, — з натугаю адказце вуснамі няслухмянымі, акалелымі. Прыстоіў Васіль і запрашае падарожніка на ноч к сабе. У санкі пасадзіў, прывёз дамоў ці-то папа растрыжанага, ці-то старца пісьменнага. Падала Ганна Васіліха страву на стол, прыняла гасьця чым хата багата. Павячэралі, разгаманіліся. І казаў манах, што йдзець ён з Афонскае гары, што даўно ходзіць па Краю Забранаму і бачыць, як катуюць падданых людзей, як з іх знушчаюцца І хоча памагчы народу бяздольнаму, чакае толькі на Божы наказ. Старыя ж яго слухаюць, дзівуюцца. А той паглядзеў наўкол, у іх пытаецца: „Удвох вы толькі. А дзеткі вашыя дзе?“

месяцы тры таму назад ў Вільні, скліканы польскай партыяй „адраджэньне“. На зьезд зьявіліся людзі з Віленшчыны, Горадзеншчыны і часткаю з Меншчыны. Цікаўна было паслухаць, як адзін за другім прамоўцы гаварылі па зямельнаму пытаньню. З іх прамоў зусім ясна можна было зразумець, як трэба вырэшыць у нас на Беларусі зямельнае пытаньне. Дзіўна, што яшчэ ні водная беларуская партыя не падайшла да вырашэньня зямельнаго пытаньня так, як гэтаго хоча наш народ. З гэтаго, значыцца, трэба зрабіць той вывад, што для вырашэньня беларускаго зямельнаго пытаньня патрэбна партыя самаго селянства, бо ніхто іншы, як сам народ, ведае лепш за усе партыі, што рабіць з зямлёй.

(Працяг будзе).

Селянін.

## ЛЕНІН і БРУСІЛОЎ.

Апошнімі днямі ў газэтах зьявіліся вельмі цікавыя весткі з Маскоўшчыны аб тым, што бальшавікі зьмянілі напрамак сваёй палітыкі ў адносінах да так званых „контр-рэвалюцыанероў“, глаўным чынам—вайсковых. Многа розных царскіх генералоў, паўкоўнікоў і чыноўнікоў да апошняго часу не прынімалася бальшавікамі на службу. Аднак, калі пасьля разгрому палякамі на Украіне бальшавіцкіх войскаў бальшавікі убачылі ў гэтым вялікую пагрозу бальшавіцкай Расіі, яны для абароны рэшылі выкарыстаць „контр-рэволюцыю“. І вось мы бачым, што Ленін і Брусілоў падалі друг другу рукі і разам «спасаюць бацкаўшчыну» ад палякоў.

Мы разумеям, што ў час вялікай небязпекі, калі бацкаўшчыне пагражае вораг, павінны заціхнуць дамовыя сваркі; гэта зусім нармальна. Але нам здаецца, што Расія знайходзіцца цяпер ў такім стане, што замірэньне паміж бальшавікамі і „контр-рэвалюцыяй“ ня можа быць шчырым і трывалым. Зусім ясна, што бальшавікі хочуць выкарысюць „контр-рэвалюцыанераў“ для сваіх мэтаў, а „контр - рэвалюцыонеры“ надзеюцца скінуць тым ці іншым способам бальшавікоў. Не удалося ім з Колчаком і Дэнікіным, яны папытаюцца, як ржа, зьесьці бальшавікоў з сярэдзіны, пратачыць іх аргаңізм наскрозь. Адным словам, і тые і другіе меюць і таяць покуль што пра сябе заднія мэты. Хто каго перахітруе,—трудна сказаць. Можа стацца, што бальшавіцкі агонь яшчэ раз высушыць, контр-рэвалюцыйную ваду. Але можа быць і так, што контр-рэвалюцыйная вада залье бальшавіцкі агонь ў той самы час, калі агонь ўздумаў паміріцца з вадой.

Крэсіво.

---

І сказаў яму Васіль пра гора сваё. Ня было дзяцей у іх. Вялікую чарнату-кручыну мелі на сэрцы і прасілі ў таго, што сьвет яго, даравоць ім хоць сыночка адзінага. На сьвечы к машчам у Кіеў пасылалі. Астатні кавалачак сала старцом аддавалі. Шэсьць месяцаў, па начох, пасьля труду прыгоннага, выразаў Васіль з дубу карэлага запраст льны крыж у царкву сваю. А дзетак—як няма, дык няма. А ўжо сівеюць валасы і пасьля працы ломіць сярэдзіна. Сядзіць, бывала, Васіль з Ганнаю сьвятым вечарам у хаце пустой з звонамі-бомамі маркотнай цішы. Спамінаець, думае: „За што, за якое, божухна?“ У маленстве п'янога бацьку з вялікае крыўды цяжка зьняважыў. У маладосьці было: сусед з дробнымі дзеткамі у нагах валяўся, полы цалаваў, прасіў-маліў добрых людцаў, каб хто за яго пану аб'явіўся дабрахоць на жаўнерства, на дваццаць пяць год лямкі вайсковае; не паслухаў Васіль, сірот не ўратаваў, бо сваім шчасьцем даражыў. Ато яшчэ з панскага поля, з прыгону, уцякаў. Калі войту ехаць, з мосту ўночы дашку-палавіцу выкінуў: войтаў конь нагу зламіў, абязьвечыўся і на бойню пад даўбнёю пайшоў. Аднэй дзеўцы вачмі радасьць падаваў, а к другой у сваты гэтым часам рыхтаваўся. У вялікі пост наскароміўся. у дарогу езьдзіўшы. На суседа меў злабу вялікую. Аб багацьці залішне дбаў.— „Завошта ж, а божухна?“ Тужліва на хаце аглядаўся Васіль. Вось і багацейшы ён за другіх, а нашто яму тое багацьцё вялікае, калі пахаваць, як памруць старыя, і то ня будзе каму.

# 15-гадовы юбілей Янкі Купалы.

Сёлета вясною споўнілася пятнаццаць гадоў, як у нашай поэзіі творыць самы слаўны сучасны пясьняр Янка Купала. Запраўднае імя яго Янка Луцэвіч. Ен родам з Меншчыны. Нарадзіўся ў 1882 годзе. Бацька яго быў бедны шляхціц-гаспадар і ня мог даць здольнаму сыну патрэбнае школьнае навукі. Скончыўшы ніжэйшую пачатковую школу, Янка застаўся ў бацькі пры гаспадарцы, але надта любіў чытаць кніжкі і чытаў іх шмат. Да дзевятнаццацёх гадоў ён жыў звычайным сялянскім жыцьцём: гараў, касіў, хадзіў на фэсты і кірмашы. Потым, пасьля сьмерці бацькі, хлапца пацягнула ў сьвет. І ён быў і вучыцелем у нелегальнай шляхоцкай школцы, і пісарам у нотарыуса, і практыкантам у розных браварох, і лясным служачым і шмат чым іншым. Яго вершыкі ў «Нашай Ніве» адразу зьвярнулі на сябе увагу правадыроў беларускага руху. І Купалу запрасілі ў Вільню. Тут ён працаваў у газэце і служыў бібліотэкарам. Посьле паехаў у Пецярбург і чатыры гады вучыўся на курсах, а як прыехаў зноў у Вільню, дык рэдактаваў «Нашу Ніву» аж да восені 1915 года. Перад надходам немцаў ён выехаў у Маскву і паступіў у народны унівэрсытэт Шаняўскага, але паучыўся нядоўга, бо забралі на вайну. На фронце служыў ён у зялезнадарожным адрадзе. Цяпер Купала жывець у Менску і ўвесь свой час вольны ад зарабляньня на кавалак хлеба, аддаець на карысьць літэратуры. Між іншым пад яго рэдакцыяй пачаў выхадзіць тыднёвік „Рунь“. За 1905 — 1920 г. г. Купала напісаў гэткія кнігі: 1) „Жалейка“, 2) «Гусьляр» і 3) „Шляхам жыцьця“—зборнікі лірычных вершаў з народнага беларускага жыцьця, дум і песьняў аб адраджэньні, апавяданьняў, повесьцей, баек; 4) „Адвечная песьня“ і 5) „Сон на кургане“ — вершаваныя драматычныя поэмы, у якіх пязвычайна хараша паказана беларускае жыцьцё з усіх бакоў, змалёвана соцыяльнае гнібеньне і нацыянальны ўціск беларусаў; 6) „Паўлінка“ і 7) Раскіданае гняздо“— драмы, вядомыя кожнаму, хто цікавіца беларускім тэатрам. Апрача таго, Купала маець шмат нядрукаванага матэр'ялу, а тыя вершы яго, якія зьмежчаны посьле 1915 года ў розных часопісях, склалі б ужо вялікую кнігу. Вершы Купалы зьяўляліся ў перакладах на расійскай, польскай, украінскай, чэскай, нямецкай і другіх мовах. Пясьнярская слава Купалы ўсё расьцець. На Беларусі цяпер няма такога пісьменнага чалавека, які ня ведаўбы Янкі Купалы. Навет нашы няграматныя сяляне шмат дзе ведаюць яго імя.

N.

---

Пашто яно, калі і вочы зачыняць у труне людзі ня блізкія, а цяпера вось нудна ў хаце, ня тупаюць ножкі маладзенькія, няма да каго з ласкаю падыйці. За ўсё жыцьцё ня чуў на шыі ручачак дзяціных абшчэпленых... Паслухаў, памаўчаў манах.—„Калі бярэце,—кажа, — адказ на сябе, дам я раду вам“. У Васіля аж сэрца затукала, а Ганна ў ладкі з радосьці плёснула.—„Бяром адказ, — кажуць яны падарожніку. Дастаў тады манах з свае торбачкі нейкія вуземыкі, вывязаў з іх рознае заморское дзіватворнае зельле пахнючае, патрушчыў яго, сьцёр у пыл, у галачкі з хлебам паўкачаў і даець старым: «Дванаццаць дзень, рана і вечара, зьядайце па аднэй галачцы. І ўвесь час жывіцеся хлебам з солею і вадою крынічнаю. На трынаццады ж дзень постуйце да перпай зорачкі, а парыхтуйце усялякай, самай лепшай, што толькі маеце, яды і мяса добра паперчыце. І наежцеся удосыцьце. А потым спаць кладзіцеся і моцна веруйце, спадзявайцеся, што споўніце спрадвечны загад людзкому роду, загад пладзіцца і множыцца“. З садодкай жудасьцю яны слухамі і ўзялі галачкі. А на раньне, ціхае і сьнегам серабрыстае, усклаў старац на сябе вырыгі свае, апрануўся, разьвітаўся, перасцыўся колькі раз з уважнасьцю і пайшоў па скрыпучай вуліцы, кійком па крамянаму сьнегу папраючысь, чорненькі сярод бялеючага вокала і з хатыльком на пахілых плячох.

Максім Гарэцкі.

((Працяг будзе).

# Аб беларускім войску.

(Ад уласнага корэспандэнта з Менску).

Ужэ блізка каля году, як стварылася так званая „Беларуская Войсковая камісія“, істнуючая ў Менску Мэтай яе было і ёсьць арганізаваць беларускае войска, каторае стало-б на варце абароны бацькаўшчыны ад ворагаў. Доўга чакало беларускае грамадзянства хоць яніх небудзь рэзультотоў ад працы камісіі і не дачакалася. Радужныя надзеі беларускіх незалежніцкіх кругоў патроху паблеклі і зьмeніліся на чорную безнадзейнасьць. Цяпер мала хто верыць, што з вайсковай беларускай справы будзе пры сучасных палітычных варунках якая небудзь карысьць. Многа ёсьць розных прычын, каторыя прашкаджаюць стварэньню беларускага войска.

Першая і глаўная прычына — гэта непрыхільнасьць да справы утварэньня беларускага войска з боку рэакцыйных польскіх кругоў (глаўным чынам—эн-дэцкіх, стаячых на грунце безварунковага далучэньня тэрыторыяў Беларусі да Польшчы. Для польскіх палітыкоў гэтага толку беларускае войска ня толькі не патрэбна, але навэт вельмі шкодна, бо яно ставіць сваёй мэтай не „далучаць“ Бералусь да Польшы, а як раз наадварот — „злучаць“ тэрыторыі Беларусі ў адну незалежную і непадзельную Беларускую Народную Рэспубліку.

Другая прычына, прашкаджаючая фармаваньню беларускага войска, ляжыць ў самым напрамку працы павадыроў Беларускай Вайсковай Камісіі, сярод каторых пануе страшэнна вузкі заалагічны шовінізм ў адносінах да пытаньня, каго лічыць „шчырым“ беларусам, а каго—„маскоўцам“. Камісія прасевая праз вузкае сіто розных „эвідэнцыйна — кваліфікацыйных“ камісіяў кожнага, жадаючага паступіць ў беларускае войско, і рэдка хто з гэтаго сіта высеваецца. Большасьць, пры тым аграмадная, як непатрэбныя высеўкі, выкідаецца з сіта на сьметнік. Дзякуючы гэтаму, ў шырокім беларускім грамадзянстве даўно ужэ ведама, што ў беларускае войско цяжэй папасьці, як ў Рай Магамэта, што ў беларускае войска, асабліва ў беларускіе афіцэры, папасьці беларусу такім, якім ён ёсьць, проста немагчыма. Трэба хітраваць, прыкідацца шчырым, лаяць маскоўцаў, а ў душы — хто яго ведае, — быць можа, належаць да тыпу «шкурніка» чы палітычнаго перавертня, гатоваго за лепшы хлеб служыць „верай і праўдай“ хоць самаму чорту. Разумеецца, што ад такой працы Вайсковай камісіі нічога добраго чакаць ня можна. Па усяму відаць, што ў Вайсковай камісіі сядзяць людзі, кірунак працы каторых не адпаведая патрэбам і настрою беларускаго народу і носіць ў самым сабе прычыну шырокай непапулярнасьці. Чаго-ж можна чакаць беларускаму народу ад Вайсковай камісіі пры тым палажэньні, якое стварылася, дзякуючы з аднаго боку оппазіцыі польскай рэакцыі, а з другого—характэру працы самой Вайсковай камісіі?

На гэта адказаць вельмі лёхка: калі ўсе застанецца па старому, то войска беларускаго, як ні было, так і не будзе. Каб яно было, трэба, каб польская рэакцыя перастала прашкаджаць арганізацыі беларускаго войска і каб Беларуская Вайсковая Камісія зайнялася не прасяваньням беларускаго народу праз сіто сваіх камісіяў, а выкарыстаньнем усіх вайсковых беларусоў, якія-б яны ні былі спачатку, для патрэб бацькаўшчыны і яе абароны.

Менчук.

# Яшчэ аб вайсковай камісіі і войску.

(Ад ўласн. карэсп. з Менску).

Апошнімі днямі, калі бальшавікі неспадзеваным выпадам з пад Полацка зайнялі Глыбокае і іншыя месцовасьці, не зусім далекія ад Меншчыны, Беларуская Вайсковая камісія выпусьціла некулькі адозвай да „беларусоў“, „селян“ і „братоў-беларусоў“ з прызывам запісвацца ахвотнікамі ў беларускае войско. Запісь адбываецца ў памяшчэньні камісіі (рог вул. Міцкевіча і Фэліцыянскай, гот. „Гарні“). Паміж іншымі словамі адозваў зьвяртаюць на сябе увагу словы да „сэлян, братоў-беларусоў“:

„Браты Селяне! У нас, на Беларусі, досыць зямлі і памешчыцкай і нашай, каб здаволіць ёю усіх нас тутэйшых людзей. Нам трэба толькі наладзіць парадак. Кіраўнікі Беларускай палітыкі ужо дагаварыліся з Польшчай, каб цяперашні парадак і жыцьцё нашае былі зьменены на лепшае. Мы на

пярэдадні аб'яўленьня незалежанасьці нашай Бацькаўшчыны, дзе мы, усе тутэйшые людзі, будзем лічыць сябе гаспадарамі сваей роднай старонкі.»

Адозва падпсана Беларускай Вайсковай Камісіяй.

Дзіўныя рэчы раскрываюцца перад намі з гэтай адозвы Напрыклад: „У нас, на Беларусі, досыць зямлі і памешчыцкай і нашай, каб здаволіць ёю усіх нас, тутэйшых людзей". Ну, і што-ж з гэтага? Даўно ведама, што—„досыць", „каб здаволіць усіх нас", але хто, як, калі і каго здаволіць? Далей.—„Кіраўнікі Беларускай палітыкі ужо дагаварыліся з Польшчай"... Чы-ж гэта праўда? Усе наогул беларускіе дзеячы, як Менскіе, так і Віленскіе адмоўляюцца ад таго, што яны „дагаварыліся", а Вайсковая Камісія даказвае, што яны таяцца і маўчаць, як дыплёматы. Хітрая і цікавая гісторыя з гэтымі „дагаворамі", аб каторых і п. Скульскі—старшыня польскіх міністраў—даўно ужэ казаў. Што-б усе гэто значыло? Можа, які небудзь адзін сябра Вайсковай Камісіі лічыць сябе аднаго усімі беларускімі палітыкамі і „дагаварыўся" да—„Беларусь—гэто я".

„Мы на пярэдацыі аб'яўленьня незалежнасьці нашай бацькаўшчыны". Здаецца, што каму-каму, а беларускай вайсковай каміссі трэба-было-б ведаць, што незалежнасьць Беларусі абвешчана Радай Беларускай Народнай Рэспублікі яшчэ 25 сакавіка 1918 г. Калі-ж камісія хацела сказаць, што скоро Беларусь будзе прызнана незалежнай якоюнебудзь дзержаваю, то так трэба і пісаць.

Менчук.

---

# Беларуская коапэрацыя.

(Маладэчынскі коапэратыўны район).

Распаложанае пры скрыжаваньні жалезных дарог Вільня—Менск і Полацак-Ваўкавыск, Маладэчына маець вялізарнае значэньне ў эканамічнам жыцьці ўсяго насяленьня район. У яго акалічнасьці істнуюць каля 30 коапэратываў, апрача розных „kółek handlowych" і іншых арганізацыяў гандлевага характару. Усе гэтыя коапэратывы задавальняюць дзевяць валасьцеў з агульным лікам насяленьня каля 120 тысяч чалавек. Алеж значэньне Маладэчыны да гэтых час ў адносінах да коапэрацыі далека не такоя, якоя было-б, калі-б там быў арганізаваны які небудзь коапэратыўны цэнтр.

Усе Урады коапэратываў, ў якіх здарылася бываць у траўні м-цы г. г., дужа цікавіліся, ці можа Віленскі Саюз коапэратываў адчыніць у Маладэчыні сваё аддзяленьне і прасілі, калі гэта Саюз зробіць можа, то каб рабіў гэта чымся скарэй.

Згаджаючыся з тым, што для асабістага жыцьця згрупаваных ў тым районе коапэратываў нязбытна патрэбны такі коапэратыўны цэнтр, мушу сказаць, што з істнаваньнем такой арганізацыі наогул шырэй і сыстэматычней развьецца коапэратыўны рух гэнага район. З паніжэньнем вартасьці грошаў, цяпер само сабою зьяўляецца думка аб пераходзе на таваараобменны гандаль. У сучасны момэнт справа гэта цалкам знайходзіцца ў руках прыватных гандляроў, якія скупуць шэрсьць як з мястовава, так і сельскага спажыўца. Коапэрацыя павінна палажыць канец гэтаму. Маючы на мэце барацьбу з прыватным гандлям, коапэрацыя павінна вырваць з рук спэкулянтаў і гэты самы стары від гандлю. У сучасны момэнт, па сотням розных прычын, вёска беспасрэдна ня можа даставіць свой тавар у горад. Коапэрацыя павінна прысьці ў гэтым кірунку на дапамогу. Трэба адчыніць па магчымасьці больш аддзяленьняў саюзу, складаў і іншых органаў прыема і выдачы і праз гэтыя перадатачныя пункты задаваліць як вясковае так і гарацкое насяленьне патрэбнымі яму таварамі. У перш ж чарод, як толькі таму будзе магчымасьць, патрэбна адчыніць такоя аддзяленьне ў Маладэчыні.

Аддзяленьне ў Маладэчыні будзе мець вялікае значэньне і ў другім кірунку. Часта сельскія коапэратывы, асабліва з малым зваротным капіталам, змушаны даставаць тавары нават у прыватных гандляроў. Яны ня маюць магчымасьці пры цяперашняй дарагавізьне дастаўкі, беспасрэдна зварочвацца ў Саюз за таварамі. Зусім было-б інакш, калі-б на мейсцы істнаваў які небудзь коапэратыўны цэнтр. Пры першай магчымасьці такія малыя коапэратывы атрымалі-б, бадай што у сябе дома, патрэбныя ім тавары.

Апрача ўсяго сказанага, такая арганізацыя прыцягне ў Саюз шмат тых копэратываў, якія да гэтых часоў па розным прычынам не зьяўляюцца яго сябрамі.

А—а.

# На белым сьвеце.

## У Літве.

15 траўня г. г. ў Коўні адчыніўся Сойм. Сойм налічае больш як сто дэпутатоў, сярод каторых: палякоў — 3, жыдоў 6 і немцаў — 5, астальные — літоўцы. Па партыйнаму складу дэпутаты літоўцы дзеляцца на: хрысьціянскіх дэмакратоў, каторых больш як палова, соцыяль-дэмократоў, рэвалюцыйных соцыялістоў і соцыялістоў-народнікоў. Партыі „Пажанга“ і „Сантара“ на выбарах праваліліся.

Такім чынам, Літоўскі Народ шчасліво вышаў з доўгай і цяжкай барацьбы за незалежнасьць пераможцам і цяпер ніхто ня можа ужэ сказаць, што літоўцы ня здольны самы адбудоваць сваю незалежнасьць. Астаецца пажадаць яшчэ, каб літоўцы дабіліся прызнаньня ад сваіх суседзяў і Эўропы некаторых тэрыторыяў, на каторыя у іх ёсьць права, пабудованае на этнаграфічных і гістарычных асновах. Паміж іншым, газэты паведамілі ужэ, што Савецкі Маскоўскі Урад згадзіўся прызнаць правы літоўцаў на Вільню.

## На Украіне.

Паміж Польскім Урадам п. Скульскаго і украінскім урадам п. Левіцкаго заключана умова, на аснове каторай Польшча прызнала незалежнасьць Украіны. Адначасна польскія войскі занялі Валынь, Кіеўшчыну і частку Падоліі, выціскаючы адтуль бальшавікоў. Цяпер ідзе на Украіне формаваньне атаманам Пятлюрай украінскіх войскаў.

## У Латвіі.

Латвійскі урад Ульманіса вядзе з Савецкім урадам міравые перагаворы. Есьць чуткі, што савецкі урад ў скорым часе заключыць з Латвіяй мір.

## У Фінляндзіі.

Фінляндзія згадзілася распачаць міровые перагаворы з савецкім урадам 10 чэрвеня г. г.

## На Каўказе.

Пасьля таго, як Дэнікінская армія была разьбіта, савецкія войскі амаль без ўсякаго спыну прайшлі на Каўказ і занялі Азербейджан з горадам Баку. З Грузіяй савецкі урад зрабіў умовы, не дапусьціушыя покуль -што бальшавікоў на тэрыторыю Грузіі. З Арменіяй савецкі урад вядзе перагаворы, которые, мусіць, кончацца карысна для савецкаго ураду, так як Арменія ня можа змагацца з бальшавікамі. Зусім інакш бальшавікі аднесьліся да Пэрсіі. Яны напалі на Энзелі—персіцкі порт на Касьпійскім моры, прагналі адтуль ангельскі гарнізон і ідуць цяпер на сталіцу Пэрсіі-Цегеран. Дывізія пэрсіцкіх казакоў перайшла да бальшавікоў, жандармэрыя так сама, так што шах пэрсіцкі змушан быў пакінуць сталіцу і уцякаць ў Багдад да ангельцаў. З турэцкім пашой Мустафа-Кэмаль бальшавікі навязалі некія тайныя стасункі. Усе гэта пагражае вялікай небяспекай палітыце Эўропы у Азіі.

### Беларускія школы у Віленшчыне і Горадзеншчыне.

Як мы даведаліся з афіцыяльнай статыстыкі, на усім абшары Віленшчыны і Горадзеншчыны у працягу 1919—20 вуч. году істнавало толькі 17 ніжэйшых пачатковых беларускіх школак. Такі незначны лік беларускіх школак для пасяленьня ня меньш як 2½ мільёны, сьведчыць не аб тым, што беларусы умысна не адчыняюць сваіх школак, бо іх ня хочуць, і не аб тым, што у беларусоў німа вучыцялёў, бо вучыцялі ёсьць і не маюць чаго рабіць, а саусім аб другім,—аб штучным праціваборстве утварэньню беларускіх школ з боку рэакцыйных польскіх элементоў.

# ХРОНІКА.

### Беларускае войско.

Як мы даведаліся з пэўных крыніц, ў скорым часе пачнецца фармаваньне

рэгулярных частак Беларускай агміі. На першых парах будзе сфармована дывізія.

### Беларуская гімназія ў Вільні.

Гэтымі днямі гімназія закончыла вучэбны год. Вучашчыеся адпушчапы на летніе канікулы. Скончыло 8-ую клясу гімназіі 17 вучняў і вучаніц. З будучага вочэбнаго году гімназія перафармоўваецца ў чыста беларускую, пры гэтым астаюцца два падгатоўных клясы і шэсьць аснаўных. Пры гімназіі мае быць адчынена бурса для дзяцей з правінцыі. Лепшые вучні з вышэйшых і ніжэйшых пачатковых і іншых беларускіх школ могуць быць прыняты ў бурсу на льготных варунках.

### Беларускія курсы ў Горадні.

Нас паведамляюць, што ў скорым часе у Горадні адчыняюцца беларускіе вучыцельскія курсы для падгатоўкі вучыцельскага пэрсоналю для беларускіх пачатковых школак.

### Адэская Беларуская арганізацыя.

Як мы даведаліся ад асобы, прыехаўшай гэтымі днямі з Адэсы, там праз ўвесь час, ад самаго пачатку рэвалюцыі, істнуе беларуская арганізацыя, каторая, ня гледзячы на частую зьмену ў Адэсі усякіх ўлад, моцна трымаецца і разьвівае шырокую аргапізацыйную і культуральную працу. Сяброў ў беларускай арганізмцыі лічыцца некулькі тысячаў, сярод каторых многа селян, работнікаў і інтэлігентоў. Толькі ў той момэнт, калі Адэсу захапілі Дэнікінцы, беларуская арганізацыя ў Адэсі перажыла разгром. Беларуская бібліатэка была разбурана і большасьць кніжак прапало. Некаторые беларусы былі арыштаваны.

У цяперашнім часе, пры бальшавіках, арганізацыя ізноў працуе і адчыніла у Адэсі некулькі беларускіх пачатковых школаў.



Рэдактар Г. Богдановіч. Выдавец У. Знамяроўскі.

Пазволена Ваеннаю Цанзураю. Друкарня . Кооп. Тавар. „ДРУК“, Троцкая, 13.